■ Якуб Корсак

## У МАГІЛЁВЕ АБВЕШЧАНЫ СТАРТ КАМПАНІІ «ГРАМАДЗЯНСКІ КАНТРОЛЬ»

**У Магілёве шраг незалежных прафсаюзаў і грамадскіх аб'яднанняў 20 ліпеня абвясцілі пра пачатак кампаніі «Грамадзянскі кантроль».**



Кампанія з'яўляецца гарадской і будзе мець у большай ступені інфармацыйны характар, яна арыентаваная на барацьбу з бюракратызмам і разгільдзяйствам, заявіў прысутным старшыня Магілёўскай абласной рэгіянальнай арганізацыі Свабоднага прафсаюза Беларускага Юрый Новікаў.

«У наш час абурае стан дарог, на рамонт якіх пачалі спаганяць з уладальнікаў аўтамабіляў новы падатак, зноў перакрытая з-за рамонту вуліца Піянерская, якую ўсё лета рамантавалі год таму. На ўсё гэта ідуць грошы з бюджэту, але ўлада не трымае справаздачу перад грамадскасцю», — сказаў ён.

Паводле Новікава, у межах кампаніі адкрыецца грамадская прыёмная і будзе працаваць гарачая тэлефонная лінія, па якой на пытанні грамадзян, што тычацца сацыяльных і прававых праблем, адкажа юрыст.

Звесткі пра вынікі кампаніі, адзначыў Новікаў, будуць размяшчацца ў інфармацыйных бюлетэнях, якія выдаюць мясцовыя аддзяленні незалежных прафсаюзаў. Акрамя таго, плануецца стварэнне ў сацыяльных сетках групы «Грамадзянскі кантроль».

Летась Магілёўская абласная арганізацыя Аб'яднанай грамадзянскай партыі неаднаразова звярталася да ўлад з патрабаваннем правядзення грамадскіх слуханняў адносна рамонту вуліцы Піянерскай, нагадаў яе кіраўнік, а таксама прадстаўнік Фонду імя Льва Сапегі Уладзімір Шанцаў. Аднак улады не сталі гэтага рабіць. Зараз жа ў межах кампаніі яе ініцыятары запланавалі правядзенне грамадскіх слуханняў па шэрагу пытанняў, у тым ліку аб тым, куды пайшлі грошы, прызначаныя на рамонт Піянерскай летась, калі сёлета яна зноў рамантуецца.

Кампанія «Грамадзянскі кантроль» з'яўляецца бестэрміновай і адкрытая для далучэння да яе арганізацый і асобных грамадзян. У ліку яе ініцыятараў — магілёўскія структуры Свабоднага прафсаюза Беларускага, незалежнага прафсаюза РЭП, Свабоднага прафсаюза металістаў, Фонду імя Льва Сапегі і іншых.

■ Пан Тадэуш

## МАГІЛЁЎСКІЯ ПРАВААБАРОНЦЫ ПАТРАБУЮЦЬ ВЫЗВАЛІЦЬ ПАЛІТЗНЯВОЛЕНЫХ

**У Магілёве праваабаронцы Барыс Бухель і Аляксей Колчын маюць намер правесці ў цэнтры горада пікет у падтрымку палітзняволеных.**



Як паведаміў "Нашаму Магілёву" Барыс Бухель, у Магілёўскі гарвыканкам 17 ліпеня пададзена заяўка на правядзенне пікета 4 жніўня з удзелам да 15 чалавек. Месцам акцыі ўказана пляцоўка на вуліцы Першамайскай насупраць будынка Галоўпаштамта.

«Хутчэй за ўсё, што гарвыканкам адмовіць у правядзенні пікета на той падставе, што вызначана адзінае месца ў горадзе для такіх акцый — аддалены ад людскіх патокаў стадыён каля былога ДК завода імя Куйбышава. Аднак тое месца правядзення нас не задавальняе», — заявіў праваабаронца.

Ён нагадаў, што летась імі падавалася заяўка на пікет за вызваленне Алеся Бяляцкага на тым жа месцы насупраць магілёўскага Галоўпаштамта. Магілёўскія ўлады адмовілі тады праваабаронцам у праве яго правядзення.

Былы начальнік Клімавіцкага РАУС Аляксандр Арцёменка заяўляе аб фальсіфікацыі яго крымінальнай справы Стр.3

У Магілёве праваслаўныя вернікі заклікаюць гарадскія ўлады аднавіць Узнясенска-Пакроўскі храм Стр.5

У Магілёўскай вобласці ў Чырвоны Крыж па дапамогу звярнуліся каля 60 грамадзян Украіны Стр.7

# НАШ МАГІЛЁЎ

http://gazetanm.eu
№76

Незалежнае грамадска-палітычнае выданне горада. 31 ліпеня 2014 г.

Надрукавана на ксераксе.
Наклад 299 ас.
Адрас рэдакцыі: Магілёў,
вул. Ленінская, 29.
Распаўсюджваецца бясплатна.
gazetanm.eu@gmail.com

**Галоўны рэдактар - Вітольд Няўрыда**

ГРАМАДСТВА

■ Якуб Корсак

## У МАГІЛЁВЕ Ў ПАЧАТКУ ЖНІЎНЯ ПАДАРАЖЭЕ ПРАЕЗД

**Кошт праезду ў аўтобусах і тралейбусах горада будзе складаць 3,5 тысячы рублёў.**



Набыць квіток у кіроўцы будзе каштаваць 4 тысячы рублёў.

Разам з квіткамі падаражэюць і месячныя праязныя білеты. Месячны праезд на адным відзе транспарту абыдзецца ў 157,5 тыс. руб, камбініраваны – 210,1 тыс.руб.

Трэба адзначыць, што кошт праезду ў маршрутках горада кіроўцы вызначаюць самастойна, сыходзячы з попыту на паслугу, аднак не парушаючы пры гэтым заканадаўства.

■ Якуб Корсак

## РАСІЯНЕ ІНВЕСТУЮЦЬ Ў НОВЫ МАГІЛЁЎСКІ ЗАВОД 130 МЛН ЕЎРА

**Холдынг «Омск Карбон Групп» пабудуе ў Магілёве завод па вытворчасці тэхнічнага вуглярода.**




На пляцоўцы свабоднай эканамічнай зоны «Магілёў» ужо закладзена капсула.

ЗТАА «Омск Карбон Магілёў» было ўтворана ў 2012 годзе і зарэгістравана ў якасці рэзідэнта СЭЗ «Магілёў» з інвестпраектам «Стварэнне прадпрыемства па вырабу тэхнічнага вуглярода ў СЭЗ «Магілёў»».

Праектам прадугледжана стварэнне 448 новых працоўных месцаў. Завод па вырабу тэхнічнага вуглярода будзе адзіным у Беларусі. Ён будуецца на пляцоўцы каля ААТ «Магілёўхімвалакно».

Асноўным спажыўцом тэхнічнага вуглярода з'яўляецца бабруйскае прадпрыемства «Белшына».

■ dw.de

# СУД В ГААГЕ: РОССИЯ ДОЛЖНА ВЫПЛАТИТЬ ЭКС-ВЛАДЕЛЬЦАМ ЮКОСА 50 МЛРД ДОЛЛАРОВ

**Российские власти проиграли в Третейском суде в Гааге дело против бывших владельцев нефтяной компании ЮКОС. Россия может подать апелляцию.**




Третейский суд в Гааге в понедельник, 28 июля, обязал Россию выплатить 50 миллиардов долларов компенсации бывшим владельцам компании ЮКОС. Суд признал, что российские власти фактически экспроприировали компанию у ее бывших владельцев, сообщается на сайте суда. Разбирательство по делу ЮКОСа велось с 2005 года, истцы требовали от России более 100 миллиардов долларов компенсации. Суд также обязал РФ оплатить судебные издержки в размере 60 миллионов долларов.

Ранее глава МИД РФ Сергей Лавров заявил, что после оглашения вердикта Третейского суда Россия будет использовать все правовые возможности для отстаивания своей позиции в деле ЮКОСа.

■ Unian.net

# ТУРЧИНОВ ОБЪЯВИЛ О РОСПУСКЕ ФРАКЦИИ КПУ

**Как передает корреспондент УНИАН, в частности, Турчинов сказал: "Как известно, по результатам выборов в Верховную Раду седьмого созыва на основании Регламента ВР была сформирована депутатская фракция Коммунистической партии Украины в количестве 33 народных депутата.**



На 1 июля 2014 года эта фракция сократилась до 23 депутатов, что значительно меньше, чем минимальное количество во фракции. В связи с этим и на основании ч. 4 ст. 60 Регламента, объявляю о роспуске депутатской фракции Коммунистической партии Украины в Верховной Раде седьмого созыва».

Председатель Верховной Рады Александр Турчинов объявил о роспуске фракции КПУ в парламенте. Также Турчинов подчеркнул: «Это историческое событие. И я надеюсь, что больше коммунистической фракции в украинском парламенте не будет". Эту речь Турчинова депутаты от коалиции встретили аплодис

# ОЛЛАНД: ФРАНЦИЯ ОТДАСТ РОССИИ ОДИН «МИСТРАЛЬ», ВТОРОЙ - ЗАВИСИТ ОТ ПОЗИЦИИ РФ ПО УКРАИНЕЗАВИСИТ ОТ ПОЗИЦИИ РФ ПО

**С заявлением такого содержания выступил президент Франции Франсуа Олланд, сообщает Радио Свобода со ссылкой на агентство France-Presse.**

По словам французского лидера, в противном случае штрафные санкции составили бы 1,1 миллиарда евро.

«Сделка была заключена в 2011 году, корабль почти готов и должен быть передан в октябре», - сказал Олланд. Работу над вторым кораблем класса «Мистраль» президент Франции связал с позицией Москвы в отношении украинского кризиса. По его словам, если ограничения в отношении России будут введены, это «должно произойти на уровне ЕС и будет касаться только будущих поставок техники».

«Пока этого нет, посмотрим, будет ли Россия вести себя плохо», - сказал Олланд. Западные партнеры Франции призывают Париж отказаться от поставки «Мистралей» в России. США и союзники утверждают, что при нынешних условий предоставления Москве высококачественного оружия является неуместным.

Россия не имеет возможности производить такие корабли внутри страны. Вертолетоносцы «Мистраль» являются оружием активного нападения, они дают возможность высадить батальон морской пехоты и бронетехнику на берег на расстоянии до 10 тысяч километров от порта приписки без дозаправки. Аналитики утверждают, что даже бывший СССР не имел таких возможностей.



■ Ядвіга Люнтова

# У МАГІЛЁЎСКАЙ ВОБЛАСЦІ Ў ЧЫРВОНЫ КРЫЖ ПА ДАПАМОГУ ЗВЯРНУЛІСЯ КАЛЯ 60 ГРАМАДЗЯН УКРАІНЫ

**З моманту самаабвяшчэння гэтак званых Данецкай і Луганскай народных рэспублік у Магілёўскую абласную арганізацыю Беларускага таварыства Чырвонага Крыжа па дапамогу звярнулася прыблізна 60 грамадзян Украіны, паведаміў старшыня арганізацыі Андрэй Нікіцін.**



«Да нас звяртаюцца галоўным чынам грамадзяне Украіны, якія плануюць вярнуцца на радзіму ў будучыні і ў Беларусі не шукаюць пастаяннага месца жыхарства, гэта значыць на статус бежанца яны не прэтэндуюць», — сказаў Нікіцін. З тых, хто звярнуўся ў Чырвоны Крыж у Магілёўскай вобласці, не было ніводнага прэтэндэнта на статус бежанца.

«Тыя, з якімі мы мелі зносіны, прыносяць дакумент — дазвол на часовае знаходжанне», — паведаміў кіраўнік абласной арганізацыі. Разам з тым Нікіцін упэўнены, што ў рэгіёне часовых перасяленцаў з Украіны больш, чым тых, хто звярнуўся ў Чырвоны Крыж.

Паводле яго, Чырвоны Крыж у Магілёўскай вобласці аказвае першую неадкладную дапамогу — перадае ежу, адзенне, сродкі гігіены. З перасяленцамі таксама працуюць псіхолагі.

«Прытулак мы даць не можам, таму што толькі ў Гомелі і Віцебску ёсць структуры Чырвонага Крыжа — пункты часовага знаходжання», — адзначыў Нікіцін. Перасяленцы з Украіны, якія знаходзяцца ў Магілёўскай вобласці, галоўным чынам жывуць у сваякоў.

«Нацыянальнае таварыства Чырвонага Крыжа адкрытае для ўкраінцаў, яны могуць звяртацца, мы будзем дапамагаць», — падкрэсліў старшыня абласной арганізацыі.

Паводле звестак упраўлення па грамадзянстве і міграцыі УУС Магілёўскага аблвыканкама, з 1 лютага 2014 года ў вобласці зарэгістраваныя 1.064 грамадзяніны Украіны. Пры гэтым 171 звярнуўся з хадайніцтвам аб дазволе на часовае пражыванне ў Беларусі з тэрмінам да аднаго года. Усе хадайніцтвы задаволеныя. 114 украінцаў выказалі жаданне жыць пастаянна, сказалі ў абласным УУС.

Як паведамілі у прадстаўніцтве Упраўлення вярхоўнага камісара ААН па справах бежанцаў (УВКБ), да іх рэгулярна звяртаюцца грамадзяне Украіны галоўным чынам па кансультацыі прававога характару адносна знаходжання на тэрыторыі Беларусі і атрымання статусу бежанца.

Паводле звестак, пададзеных ва УВКБ дэпартаментам па грамадзянстве і міграцыі МУС, за першае паўгоддзе гэтага года па статус бежанца ў Беларусі звярнуліся 127 грамадзян Украіны, паведаміў БелаПАН саветнік па прававых пытаннях УВКБ Цімафей Саладкоў. Ён адзначыў, што большасць іх знаходзіцца ў Віцебскай вобласці.

Усяго ж, паводле яго слоў, звярнуліся па статус бежанца ў Беларусі 217 чалавек.

■ Якуб Корсак

# НА МАГІЛЁЎШЧЫНЕ ПАЧЫНАЕЦЦА БУДАЎНІЦТВА БЕТОННЫХ ДАРОГ

**Шэраг прадпрыемстваў вобласці ўжо пачало добраўпарадкаванне вытворчых пляцовак з такім пакрыццём, а "Беларускі цаментны завод" у Касцюковічах ўжо здаў у эксплуатацыю ўнутрызаводскую бетонную дарогу.**

У гэтым годзе запланавана таксама будаўніцтва дарогі Касцюковічы-Хоцімск, якая таксама будзе бетоннай.

Спецыялісты адзначаюць, што бетонныя дарогі больш даўгавечныя і могуць праслужыць да 20-30 год. Тым часам асфальтавыя дарогі маюць тэрмін эксплуатацыі – 4-7 год.

Раней паведамлялася, што нагодай для пачатку будаўніцтва бетонных дарог сталася нізкая загрузка цаментных заводаў Магілёўшчыны. Каб забяспечыць працай прадпрыемствы была прынята адпаведная дзяржаўная праграма.

Яўген Калмач

# У МСЦІСЛАВЕ НА ФЕСТЫВАЛІ «РЫЦАРСКІ ФЭСТ» ПРАДСТАЎЛЕНЫ ЗНОЙДЗЕНЫЯ Ў РАЦЭ ВІХРА ДАСПЕХІ СТАРАЖЫТНАГА РЫЦАРА

**У Мсціславе на навукова-практычнай канферэнцыі «Канцэпт святасці ў гістарычным аспекце», якая прайшла 26 ліпеня ў межах фестывалю «Рыцарскі фэст — 2014» былі прадстаўлены даспехі старажытнага рыцара, знойдзеныя ў рацэ Віхра ў жніўні 2013 і чэрвені 2014 года.**

26 ліпеня ў горадзе былі ўрачыста пахаваныя астанкі рыцара, знойдзеныя разам з даспехамі ў рацэ Віхра, якая праходзіць па Мсціслаўскім раёне. Воін загінуў у бітве ў 1502 годзе.

Даспехі гэтыя ўнікальныя тым, што яны падкрэсліваюць прыналежнасць рыцарскага абмундзіравання да заходнееўрапейскай мілітарнай традыцыі, заявіў доктар гістарычных навук, археолаг Юрый Бохан, які ўдзельнічаў у вывучэнні знойдзеных артэфактаў . Паводле яго, даспехі належалі небагатаму рыцару. Некаторыя часткі даспехаў, як напрыклад, абарона для шыі, прымацаваная на шлем ззаду, былі зроблены не ў Заходняй Еўропе, а ў тутэйшай мясцовасці. Гэта, лічыць гісторык, даказвае, што тэхнічная думка ў нашых продкаў была такая ж, як, напрыклад, у Паўднёвай Германіі.

Рака Віхра з'яўляецца скарбніцай гістарычных артэфактаў, заявіў дайвер Андрэй Ліхачоў, які паднімаў знойдзеныя даспехі з дна вадаёма. Паводле яго, апошнім разам пры абследаванні дна ракі ўсяго за гадзіну былі знойдзены некалькі прадметаў, якія ўяўляюць гістарычную каштоўнасць.

Доктар гістарычных навук, член Савета Рэспублікі Нацыянальнага сходу Ігар Марзалюк расказаў пра шкоду, якую наносяць дзеянні так званых «чорных капальнікаў», якія ў пагоні за старажытнымі артэфактамі з мэтай асабістага ўзбагачэння разбураюць культурны слой і пазбаўляюць народ яго гістарычнага здабытку. Ён заклікаў аказваць процідзеянне несанкцыянаваным раскопкам, якія наносяць непапраўны ўрон для гісторыі і археалогіі.

Марзалюк паведаміў, што ў Мсціславе адноўлены афіцыйныя навуковыя раскопкі і плануецца музеефікаваць Замкавую гару. Акрамя таго, беларускія вучоныя хочуць надаць статус гісторыка-культурнай каштоўнасці міжнароднага значэння рацэ Віхры ў гістарычнай частцы горада.

Знойдзеныя даспехі старажытнага рыцара выстаўлены для агляду ў мсціслаўскім кармеліцкім касцёле.










Станіслаў Дубовік

# БЫЛЫ НАЧАЛЬНІК КЛІМАВІЦКАГА РАУС АЛЯКСАНДР АРЦЁМЕНКА ЗАЯЎЛЯЕ АБ ФАЛЬСІФІКАЦЫІ ЯГО КРЫМІНАЛЬНАЙ СПРАВЫ

**Былы начальнік Клімавіцкага РАУС Аляксандр Арцёменка, асуджаны на 11 гадоў пазбаўлення волі за атрыманне хабару ў асабліва буйным памеры, заяўляе, што крымінальная справа была сфальсіфікавана, а цяпер адпаведныя інстанцыі ігнаруюць усе яго скаргі.**



Нагадаем, у сакавіку 2013 года Барысаўскі міжгарнізонны ваенны суд прыгаварыў былога начальніка Клімавіцкага РАУС Арцёменку да 11 гадоў калоніі ўзмоцненага рэжыму, а старшага оперупаўнаважанага Клімавіцкага РАУС, старшага следчага Клімавіцкага раённага аддзела ўпраўлення Следчага камітэта па Магілёўскай вобласці, што праходзілі з ім па адной справе, — да 8 і 9 гадоў пазбаўлення волі. Суд, які праходзіў за зачыненымі дзвярыма, прыйшоў да высновы, што іх віна ў атрыманні хабару ў 500 тыс. долараў ад расійскага прадпрымальніка поўнасцю даказана.

«Я, у адпаведнасці з заканадаўствам Рэспублікі Беларусь і патрабаваннем Вярхоўнага суда, асуджаны незаконна, і фальсіфікацыя матэрыялаў крымінальнай справы паслужыла незаконнаму прыгавору», — напісаў Арцёменка ў сваім звароце да сродкаў масавай інфармацыі.

Паводле асуджанага, падчас суда ўсе яго хадайніцтвы неабгрунтавана адхіляліся. «Суддзя (Любавіцкі) выклаў: паказанні Арцёменкі не прымаць да ўвагі, бо спрабуе пазбавіцца ад адказнасці. Гэта калі я свае паказанні магу пацвердзіць з некалькіх незалежных крыніц і дакументальна. Вось як выконваюцца ў закрытых судовых працэсах правы чалавека, Канстытуцыя РБ, КПК», — адзначаецца ў звароце экс-начальніка РАУС.

Арцёменка сцвярджае, што ніякіх грошай ад грамадзяніна Расіі ён не атрымліваў, яго проста «крута падставілі». Тым не менш, згодна з прыгаворам суда, Арцёменка нібыта рэалізаваў хабар, купляючы маёмасць бацькам на 600 млн. рублёў. Гэта з'яўляецца хлуснёй, адзначае былы міліцыянер.

Паводле яго, ён другі год спрабуе дабіцца праверкі сваіх паказанняў і довадаў, аднак адказы прыходзяць, што ўсё ў дачыненні да яго было зроблена законна.

«Я, як чалавек, які 15 гадоў адпрацаваў у сістэме МУС, з дакладнасцю магу даказаць сваю невінаватасць і злачынствы, учыненыя супрацоўнікамі УСК, але скаргі мае проста ігнаруюцца», — гаворыцца ў звароце.

«Хочаце ведаць чаму? Адказваю: некаторыя высокапастаўленыя чыноўнікі сілавых структур будуць звольненыя з пасад, звыш 10 супрацоўнікаў УСК і УБАЗ, якія займаюцца фальсіфікацыяй крымінальнай справы, сядуць на лаву падсудных», — заяўляе Арцёменка, не называючы пры гэтым прозвішчаў.

У суд была прадстаўлена скажоная фінансавая інфармацыя, сказала Лідзія Арцёменка, маці асуджанага. «Аднак яго абскарджанні не разглядаюцца. Пішуць, што ўсё законна, і адпраўляюць назад», — сцвярджае жанчына. Яна спадзяецца, што, магчыма, пасля звароту да СМІ скаргі яе сына адносна абставін крымінальнай справы «пачнуць чытаць», піша БелаПАН.

ГРАМАДСТВА

Ядвіга Лютова

# У МАГІЛЁВЕ АДКРЫЎСЯ РЭСПУБЛІКАНСКАЯ ЎНІВЕРСАЛЬНАЯ ВЫСТАВА-КІРМАШ «ЛЕТНІ ЦЭНАПАД»

**У магілёўскім Палацы культуры вобласці 31 ліпеня пачала працу Рэспубліканская ўніверсальная выстава-кірмаш «Летні цэнапад».**

Як паведамілі арганізатары выставы – Магілёўскае аддзяленне БелГПП, асноўнай мэтай кірмашу з'яўляецца дапамога беларускім прадпрымальнікам і прадпрыемствам у рэалізацыі сваёй прадукцыі. «Разгружаем склады, прадаем тавары без нацэначнай катэгорыі, са зніжкамі», - адзначылі там.

На выставе прадстаўлена прадукцыя 15 удзельнікаў, сярод якіх такія як Аршанскі мясакансервавы камбінат, Любанскі каапгандаль, Бабруйскі мясакамбінат і іншыя харчовыя і прамысловыя прадпрыемствы і арганізацыі з усёй Беларусі.

Наведвальнікам выставы-кірмашу прапануюцца, у прыватнасці, тавары лёгкай прамысловасці - сукенкі, касцюмы, трыкатажныя вырабы, а таксама прадукты харчавання - мясныя і малочныя прадукты, мёд, хлебабулачныя і кандытарскія вырабы. Акрамя таго, прадстаўлены парфумерыя і касметыка, падарункі, сувеніры, посуд і іншыя тавары.

Выстава «Летні цэнапад» ў Магілёве працягнецца да 2 жніўня.

Станіслаў Дубовік

## АФІЦЫЙНАЯ СТАТЫСТЫКА: НА МАГІЛЁЎШЧЫНЕ ЗМЕНЬШЫЛАСЯ НАСЕЛЬНІЦТВА, АЛЕ ЎЗРОС ЗАРОБАК

**У Магілёўскай вобласці на 1 ліпеня 2014 года колькасць насельніцтва склала 1.070,8 тыс. чалавек. На 1 студзеня яна была на ўзроўні 1.072,5 тыс., паведамілі ў галоўным статыстычным упраўленні рэгіёна.**

Паводле звестак статыстыкі, у першым паўгоддзі гэтага года ў рэгіёне нарадзіліся 6.487 дзяцей, памерлі — 7.555 чалавек. У цэлым па вобласці ў студзені—чэрвені 2014 года колькасць памерлых перавысіла колькасць народжаных на 16,5% (у першым паўгоддзі 2013 года — на 26,3%).

Міграцыйныя страты насельніцтва склалі 704 чалавекі за мінулае паўгоддзе і павялічыліся ў параўнанні з аналагічным перыядам 2013 года на 48 чалавек, або на 7,3%.

Згодна са статыстыкай, на 1 студзеня 2013 года ў вобласці жылі 1.076,5 тыс. чалавек, на пачатак 2004 года — 1.160,3 тыс. Такім чынам, за апошнія 10 гадоў колькасць жыхароў Магілёўскай вобласці скарацілася амаль на 90 тыс., што прыблізна роўна чвэрці насельніцтва Магілёва.

За мінулыя шэсць месяцаў у параўнанні з аналагічным перыядам 2013 года колькасць зарэгістраваных шлюбаў зменшылася на 10,5% да 3.874, разводаў — на 7,4% да 1.917.

На пачатак 2014 года колькасць мужчын у вобласці была 503 тысячы, жанчын — 569,5 тысячы.

Сярэднямесячны заробак ў першым паўгоддзі 2014 года на Магілёўшчыне склаў 5 млн 70 тыс. рублёў. У чэрвені ён дасягнуў 5 млн 466 тыс. рублёў.

Паводле звестак статыстыкі, у чэрвені ў параўнанні з маем намінальная заработная плата ў вобласці вырасла на 3,2%, ці на 168 тыс. рублёў. У сваю чаргу рэальная зарплата павялічылася адносна ўзроўню папярэдняга месяца на 2%.

Ва ўпраўленні статыстыкі падлічылі, што ў вобласці больш за ўсё зарабляюць магіляўчане — іх сярэдняя зарплата ў чэрвені дасягнула 6 млн 50 тыс. рублёў. Менш за ўсё — жыхары Мсціслаўскага раёна, у якіх сярэдняя зарплата ў мінулым месяцы склала прыблізна 4 млн 90 тыс. рублёў.

Найбольш атрымліваюць, паводле даных статыстыкі, работнікі, якія займаюцца навуковымі даследаваннямі і распрацоўкамі ў галіне прыродных і тэхнічных навук. Іх сярэдняя зарплата ў чэрвені перавысіла 9 млн 630 тыс. рублёў. Менш за ўсё за мінулы месяц атрымалі тыя, хто здае ў арэнду машыны і абсталяванне без аператара і ў пракат бытавыя вырабы і прадметы асабістага карыстання, — менш як 3 млн 215 тыс. рублёў.

Якуб Корсак

## У МАГІЛЁВЕ АДКРЫЎСЯ МУЗЕЙ ГІСТОРЫІ ПАЖАРНАЙ СЛУЖБЫ

**Урачыстае адкрыццё музея гісторыі пажарнай службы адбылося 25 ліпеня ў Магілёве.**




«Той, хто мае музей, захоўвае свае традыцыі. Гэта нацыянальнае багацце», — заявіў журналістам дырэктар музея гісторыі пажарнай службы Анатоль Бабій. Музей быў адкрыты на Пажарным завулку ў будынку, пабудаваным у канцы XIX стагоддзя, дзе на працягу доўгага часу размяшчалася пажарная часць.

Паводле слоў дырэктара музея, на плошчы 250 квадратных метраў размешчана больш як 200 экспанатаў, якія збіралі з усёй вобласці. Сярод іх пажарныя інструменты, форма, старыя фатаграфіі, карціны. Музей будзе пашырацца, зазначыў Бабій.

«У пятай зале будзе дыярама пажару 1910 года ў раёне Луполава, калі выгаралі больш як 600 дамоў і загінулі 20 чалавек, у тым ліку пажарныя, якія яго тушылі», — сказаў дырэктар музея.

Паводле Бабія, наведванне музея будзе бясплатным.

25 ліпеня на месцы былой дыслакацыі пажарнай часці быў адкрыты і рэстаран «101», афармленне якога адпавядае пажарнай тэматыцы.

Ва ўрачыстасцях з нагоды адкрыцця новых аб'ектаў у Магілёве ўзяў удзел міністр па надзвычайных сітуацыях Уладзімір Вашчанка, а таксама пажарныя з Бразіліі, якія знаходзяцца ў Беларусі для абмену вопытам.





Якуб Корсак

## У МАГІЛЁВЕ ПРАВАСЛАЎНЫЯ ВЕРНІКІ ЗАКЛІКАЮЦЬ ГАРАДСКІЯ ЎЛАДЫ АДНАВІЦЬ УЗНЯСЕНСКА-ПАКРОЎСКІ ХРАМ

**Аднавіць Узнясенска-Пакроўскі храм у раёне Падніколля ў Магілёве, а не рабіць там месца для забаў заклікалі кіраўніцтва горада праваслаўныя вернікі 23 ліпеня падчас хрэснага ходу ў гонар абраза Божай Маці Баркалабаўскай.**



Раніцай 23 ліпеня прыблізна 150 праваслаўных вернікаў выйшлі з магілёўскага Свята-Нікольскага жаночага манастыра хрэсным ходам у Свята-Узнясенскі жаночы манастыр, які знаходзіцца ў вёсцы Баркалабава Быхаўскага раёна. Першы прыпынак яны зрабілі за некалькі сотняў метраў ад манастыра — на месцы былой Пакроўскай царквы, разбуранай у 1948 годзе. Там устаноўлены паклонны крыж з напамінам аб тым, што царква была пабудаваная ў XVII стагоддзі і апошнім яе настаяцелем быў свяшчэннапакутнік Паўлін (Крошачкін).

«Свецкае кіраўніцтва горада мае вялікае жаданне, каб тут былі дыскатэкі, забаўляльныя цэнтры. Але ў нас дастаткова рэклам з півам і іншым. Нічога духоўнага наша сучаснасць не нясе. А на духоўным, на Духу Божым народ заўсёды мацаваўся, пераадольваў непасільныя цяжбы», — заявіў перад вернікамі айцец Дзімітрый, адзначыўшы, што забаўляльныя ўстановы тут могуць з'явіцца «паводле д'ябальскай задумы».

З ім згадзіўся паломнік Аляксандр. «Мы чытаем, што будуць тут гольф-клубы, алеі металургаў, ліфтмашаўцаў, забаўляльныя цэнтры, кавярні. Усё гэта прыемна чуць, але няма ніводнага слова пра гісторыю горада, пра гісторыю праваслаўя, пра нашы святыні», — заявіў ён.

Ён сказаў, што Пакроўская царква ў свой час дала назву цэламу раёну горада — там быў Пакроўскі пасад. «Гэта быў найстарэйшы прыход Магілёва. У 1554 годзе была пабудаваная драўляная царква, а ў 1668 годзе — каменная», — адзначыў вернік.

Паводле слоў удзельніка хрэснага ходу, Пакроўскі пасад з'яўляецца гістарычным месцам у Магілёве. «Храм ёсць на акварэлях Струкава, акварэлях Напалеона Орды. Нават нямецкія мастакі часоў акупацыі малявалі гэты храм», — паведаміў праваслаўны вернік.

Паломнік Аляксандр падкрэсліў, што сёння вернікі просяць улады горада адрадзіць храм. «Чакаем адказу ад уладаў, але мы ведаем, што без барацьбы, без пільнага стаўлення кожнага да сваёй гісторыі, без пасільнай дапамогі сцяну прабіць вельмі складана», — сказаў ён.

«Тут раней пры царкве хавалі вернікаў, тут труны, тут могілкі. Найлепшыя вернікі Магілёва тут былі пахаваныя», — сказаў у сваю чаргу старшыня мясцовай праваслаўнай абшчыны Генадзь Сітнікаў.

Паводле айца Дзімітрыя, калі храм будаваўся, заўсёды закладваліся мошчы святых, якія праславілі імя Божае, «аддаўшы сваё жыццё на алтар Божы, прыняўшы вялікія пакуты». «Мы не павінны дапусціць, каб тут былі танцы на мошчах. Мы павінны аб'ядноўвацца», — сказаў ён, падкрэсліўшы, што абавязак кожнага «гэтую святыню аднавіць, узняць».

Адзначым, што ўлады Магілёва маюць намер стварыць на беразе Дняпра ў раёне Падніколля вялікую мультыфункцыянальную зону адпачынку. У гэтых мэтах там ажыццяўляецца добраўпарадкаванне тэрыторыі, праводзіліся суботнікі.




Тым часам магілёўскі гісторык Ігар Марзалюк адзначае, што Паклонны крыж на месцы Пакроўскай царквы ўсталяваны няправільна. Яго памылкова паставілі на падмурку касцёла Святога Антонія.